

Пятро Ластаўка


# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 5 (257) | ГОД VI | БЕЛАСТОК, 29 СТУДЗЕНЯ 1961 ГОДА | ЦАНА 60 ГР.


## »BETESCA« ПАШЫРАЕ СВАЮ ДЗЕЙНАСЦЬ

Зл́ажылася ў народзе прымаўка «як цябе бачаць, так цябе цэняць». Магчыма гэта і правільна. Аднак, калі паглядзець на вельмі скромны барак, у якім змяшчаецца «Бэтэска», з гэтай прымаўкай згадзіцца нельга.

**BETESCA**

Нізенькі, цесны барак. Хто бы падумаў, што ў такім памяшканні родзяцца гэткія размашыстыя планы і рэалізуюцца з вялікім поспехам.

Адчыняю дзверы ў адзін з чатырох пакояў «Бэтэскі». Спатыкае мяне з кулямётнай скорасцю сакатанне пішучай машыны. Тут сімпатычная Крыстына піша месячную справаздачу. Поўны пакойчык інтарасантаў. О, падумаў я, дзе інтарасанты там і інтарэсы. Цярпліва заняў сваё месца ў чарзе да дырэктара, каб не ўводзіць непатрэбнай мітусні.

Дырэктар Пятро Ластаўка прывітаў мяне весела, з ззяючым усмешкай тварам. Відаць, самаадчуванне яго было надзвычай добрае, такое, якое вызначае чалавека добра выконваючага давераныя яму абавязкі.

**BETESCA**

У «Бэтэсцы» з кожным днём ажыўляецца рух: людзі прыходзяць не толькі, каб атрымаць працу, але і прапануюць свае тавары, розныя сыравіны, а таксама прыносяць прадаваць свае прамысловыя праекты. І тут пачынаецца сапраўдны гандаль. Дырэктар Пятро Ластаўка і галоўны бухгалтар Люба Бусловіч хочуць купіць найтаней, а праектанты ж — прадаць найдаражэй.

Кіраўніцтва, ствараючы адпаведныя ўмовы працы працаўнікам, робіць усё неабходнае, каб прадпрыемства развівалася і прыносіла як мага большыя даходы. Яно клапоціцца аб тым, каб утрымаць адпаведныя прапорцыі між працаўнікамі бюро, а рабочымі на прадукцыі. Зараз у бюро працуе 9 асоб, а на прадукцыі звыш 110-ці. Адпаведныя прапорцыі між фізічнымі працаўнікамі і бюровымі садзейнічаюць рэнтоўнасці прадпрыемства. А гэта справа знаходзіцца ў цэнтры ўвагі дырэкцыі «Бэтэскі».

**BETESCA**

Душа смяецца, калі войдзеш у прамысловае прадпрыемства, дзе працуе больш машын чымсьці раней рабочых. На ўсіх полках вялікая маса гатовых тавараў і сыравіны. Адразу адчуваецца гаспадарская рука гаспадарскае вока.

У 1960 годзе значна расшырыўся асартымент прадукаваных прадметаў з пластмасы. Прадукуецца ліналеум, плашчы, цэраты, супрацьсонечныя акуляры, туалетныя камплеты, супрацьдажджавыя плашчы з фоліі, грабяні, шчоткі, рэгіянальныя лялькі, жаночыя торбы, раннія туфлі, актоўкі, партфелі, футляры і г. д. Выкон-

(Працяг на стар. 4)



Маўклівы, але чаруюча прыгожы, узвышаецца курган над заледзянелай Нарвай каля вёскі Цімахі. фота — П. Чэрнякевіч

## У ЛАПСКІМ ТАКСАМА ЖЫВУЦЬ БЕЛАРУСЫ

### НАРВА - КАПРЫЗНІЦА

Тапілец— гэта вялікая вёска на беразе ракі Нарвы ў Лапскім павеце. Размешчана яна ў даволі маляўнічай аколіцы. З трох бакоў яе акружае стары, шмат ужо перарэджаны сасновы лес, які мясцамі пераходзіць у густы кустарнік. З захаду ўнізе, як вокам кінуць, цягнецца шырокі пас сенажацяў, сярод якіх са сваімі шматлікімі абрэчкамі лянiва цячэ Нарва.

Рака шмат упрыгожвае аколіцу. Але адначасова яна штогод прыносіць жыхарам Тапільца і другіх вёсак многа бяды. Аграмадны абшар сенажацяў зусім тут забалочаны. Парастае высокай горкай разухой ды трыснёгам. Добра, калі выпадзе сухое лета. Тады хоць гэтую разуху людзі могуць сабраць. Але калі толькі пройдуць дажджы, лянівая Нарва выступае з нізенькіх берагоў і залівае ўвесь абшар аж па самую вёску. Уся цяжкая праца сялян прападае. Скошаную траву вада гоніць уніз ракі. Сяляне хапаюцца апошняга ратунку. Яны садзяцца ў плоскадонныя лодкі і вылоўліваюць траву з тапілішча. Сапраўды наздарма Тапільцам названа вёску.

Але ў апошні час, пры дапамозе народнай улады, людзі тут аб'явілі ўпартую барацьбу адвечным правам прыроды. Каля калёніі Тапілец ужо распачаліся меліярацыйныя працы. Паступова яны будуць праводзіцца ўніз ракі. Калі балоты асушацца і адпаведна вага падаруюцца, створаны тут будуць выдатныя ўмовы дзеля павялічэння жывёлагадоўлі. Ды і сама аколіца, калі загіне дрыгва, стане куды прыгажэйшай.

### МАЕМ ЖАЛЬ ДА ТАВАРЫСТВА

Гэтыя словы я часта чуў будучы ў Тапільцу

— Чаму Таварыства абмінае наш павет у сваёй дзейнасці? Тут жа амаль да самай Суражы, уверх ракі, жыве шмат беларускага насельніцтва. А трэба сказаць, што людзі тут цікавяцца родным. Пятро Русь з Тапільца з'яўляецца пастаянным падпісчыкам «Нівы». Калі ён атрымае новы нумар «Нівы», у яго, як звычай, сабіраецца тады поўная хата аднавяскоўцаў. Пятро Русь вельмі ахвотна чытае ім «Ніву».

Мова ў Тапільцу і аколіцы вельмі прыгожая. Але тут у бібліятэках няма ніводнай беларускай кніжкі, у школах, дзе вучацца беларускія дзеці, нідзе не вывучаецца беларуская мова. Вось тут, я думаю, сапраўдная цаліна ў дзейнасці нашага таварыства. І вельмі было б разум-

(Працяг на стар. 5)

## У Сямяцічах будзе аддзел БГКТ

15 студзеня г. г. у Мілейчыцах адбылася нарада актыву БГКТ павета і прадстаўнікоў мясцовых павятовых улад Сямяціцкага павета, на якой абмеркавана справу рэактывавання дзейнасці аддзела БГКТ. Як вядома, у мінулым годзе ГП БГКТ з увагі на малую колькасць членаў БГКТ у Сямяціцкім аддзеле пастанавіла далучыць Сямяціцкі аддзел да Бельска. У практыцы гэтае злучэнне не здало экзамена.

На нарадзе ў Мілейчыцах пастаноўлена склікаць на 5 сакавіка г. г. канферэнцыю, на якой выбяруцца ўлады аддзела і накрэсліцца план дзейнасці Таварыства ў Сямяціцкім павеце.

## СУСТРЭЧЫ



Нядаўна ў Беластоку адбылася нарада прадстаўнікоў Гродзенскай вобласці і Беластоцкага ваяводства, на якой абмеркавана праграму прыгранічнага абмену на 1961 год.

На нашым здымку: у часе падпісвання пратакола прыгранічнага абмену. Падпісвае кіраўнік савецкай дэлегацыі, старшыня Беларускага таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі Іван Казлоў. фота А. Здрадоўскі

